# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№9 (232)

верасень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"









# УЛАДЫ ЛІКВІДАВАЛІ "БАЦЬКАЎШЧЫНУ"

24 верасня Вярхоўны суд Беларусі ў асобе суддзі Рымы Філіпчык вынес рашэнне аб ліквідацыі Згуртавання "Бацькаўшчына" ў адказ на позву Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Згуртаванне было створанае ў 1990 годзе, каб кансалідаваць беларусаў у краіне і па-за яе межамі дзеля развіцця Беларусі. Згуртаванне ладзіла мерапрыемствы і акцыі, скіраваныя на ўмацаванне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці праз выхаванне павагі і паглыбленне ведаў пра родную мову, культуру, гісторыю; паслядоўна выступала ў абарону правоў і інтарэсаў беларусаў замежжа. Менавіта дзякуючы Згуртаванню ў 2014 годзе быў прыняты закон "Аб беларусах замежжа", а з'езды беларусаў свету "Бацькаўшчыны" сталі сапраўднай агульнанацыянальнай платформай для абмеркавання актуальных для Беларусі і яе замежжа пытанняў і праблем.

Фармальнай прычынай для ліквідацыі стаў перанос VIII З'езду беларусаў свету на 2022 год праз абмежаванні, накладзеныя сусветнай каранавіруснай пандэміяй, за які прагаласавала Вялікая Рада ЗБС "Бацькаўшчына". Рашэнне аб пераносе З'езду прымалася пасля кансультацый з Мінюстам: якім чынам правесці гэтую працэдуру, каб не парушыць ні заканадаўства, ні Статут. Менавіта Мінюст пацвердзіў, што Вялікая Рада мае ўсе паўнамоцтвы прыняць такое рашэнне.

Яшчэ раней цягам пазапланавай праверкі Згуртавання "Бацькаўшчына", распачатай Мінюстам у першай дэкадзе ліпеня, арганізацыя атрымала два папярэджанні:

– першае – за не выкладзеную на сайт zbsb.org, але дасланую ў Мінюст справаздачу аб дзейнасці, якую, паводле заканадаўства, пры такіх умовах размяшчаць на сайце і неабавязкова;

– другое – за тое, што ў перыяд з 14 да 22 ліпеня "Бацькаўшчына" не ліквідавала пералік устаноўленых міністэрствам парушэнняў.

Ліквідаваць тыя парушэнні было немагчыма, бо ранкам 14 ліпеня на офісе Згуртавання адбыўся ператрус і пламшканне апячатаў Следчы камітэт. Пазней выявілася, што ў дачыненні да Згуртавання распачата справа "па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 361 КК".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны “Будзьма беларусамі!”

# “ВЫБРАНАЕ” ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА

“Бібліятэка Бацькаўшчыны” папоўнілася новым томам.

43-я кніга з “Бібліятэкі Бацькаўшчыны” – гэта “Выбранае” Хведара Ільяшэвіча (1910–1948), беларускага паэта, журналіста і палітычнага дзеяча, творчасць якога ў Беларусі сёння ведаюць мала. Зборнік уклалі вядомыя даследчыкі Наталля Гардзіенка, Ціхан Чарнякевіч і Лявон Юрэвіч. Раней у Беларусі асобная кніга з творамі Ільяшэвіча выходзіла толькі аднойчы.

У кнігу ўвайшлі вершы, апавяданні, нарысы, фельетоны і лісты, якія друкаваліся ў зборніках “Недапетая песня” і “Чорная кніжка”, падрыхтаваных і выдадзеных у Нямеччыне Юркам Жывіцам, “Архіўнай кнізе” і “Мемуарах на эміграцыі” Лявона Юрэвіча, а таксама ў розных часопісах і газетах, у тым ліку “Запісах БІНіМ”.

Акрамя ліставання Хведара Ільяшэвіча, Вольгі Таполі і Юркі Віцьбіча, якое чытаецца як эпісталярны раман, уражанне пра асобу нацыянальнага дзеяча дапамагаюць скласці ўспаміны пра яго аўтарства Юркі Жывіцы і Юркі Віцьбіча, а таксама біяграфічны нарыс Арсеня Ліса.

У найлепшых традыцыях серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” кніга грунтоўна пракаментаваная і мае іменны паказнік.




Набыць кнігу можна ў knihi.by, kniganosha.by, tn.by і ў краме mmkut.by

Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”



# У АМБАСАДЗЕ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ БЫЛІ ЎРУЧАНЫЯ МЕДАЛІ РОДНЫМ ШАРАГОЎЦА АЛЯКСАНДРА РУЛЯ

1 верасня, у гадавіну пачатку Другой сусветнай вайны, у амбасадзе Вялікабрытаніі былі ўручаныя медалі родным шарагоўца Аляксандра Руля.

Беларус ваяваў у складзе 2-га польскага корпуса (у складзе брытанскай арміі) пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Уладзіслава Андэрса. Пасля вайны Аляксандр Руль вярнуўся ў Беларусь і падпаў пад пераслед з боку сталінскага рэжыму – у 1951 годзе ён разам з сям’ёй быў сасланы ў Сібір. Пасля смерці Сталіна сям’я вярнулася ў Беларусь.

Аляксандр Руль памёр у 1983 годзе і не быў прызнаны ветэранам вайны ў СССР.

Цяпер яго дачка Галіна і ўнучкі атрымалі медалі свайго бацькі і дзеда з рук пасла Вялікабрытаніі Джэкі Перкінс і Марціна Вайцяхоўскага, часовага паверанага ў справах Польшчы ў Беларусі.

Паводле nashaniva.com

РАЦЫЯ

навіны

# У БЕЛАРУСІ ЗАБЛАКАВАЛІ САЙТ РАДЫЁ РАЦЫЯ

Сайт Беларускага Радыё Рацыя з 6 верасня недаступны ў Беларусі паводле рашэння Міністэрства інфармацыі.

На Радыё Рацыя ўжо 15 гадоў выходзяць дзясяткі праграм, прысвечаных беларускай гісторыі, музыцы, літаратуры: “Жыццё з літаратурай” Алеся Аркуша, “Вочы ў вочы” Барыса Пятровіча, “Фолькбрама” і “Радыё Тузін” з Алегам Хаменкам, “Казкі малышам” ды іншыя, піша БАЖ.

Сайт racyja.com дасяжны ў Беларусі праз VPN. У Горадні і Берасці Радыё Рацыя можна слухаць на FM.

Паводле БАЖ, са жніўня 2020 года ў Беларусі:

- 497 затрыманняў журналістаў, 119 з якіх скончыліся арыштамі;
- 68 фактаў гвалту і раненняў журналістаў;
- па стане на раніцу 18 жніўня 29 прадстаўнікоў медыя ў няволі, а пад крымінальным пераследам не меней за 50 медыяспецыялістаў;
- колькасцьператрусаў і аглядаў у кватэрах журналістаў і рэдакцый з улікам візіту да БелаПАН дасягнула 140;
- заблакавана больш за 100 грамадска-палітычных сайтаў і медыя;
- 10 друкаваных выданняў вымушана спынілі выпуск.

svaboda.org

# БЕЛАРУСЫ ЎТРАЯ ЧАСЦЕЙ СТАЛІ ПРАСІЦЬ ПРЫТУЛКУ Ў ПОЛЬШЧЫ

Ад пачатку 2021 года грамадзяне Беларусі падалі 1122 заявы аб міжнароднай абароне. Найбольшая колькасць была ў ліпені 2021-га – такім правам скарысталіся 235 чалавек.

За першую дэкаду верасня паступіла 68 хадайніцтваў аб міжнароднай абароне, піша Радыё Свабода са спасылкай на тэлеграм-канал “Беларусы ў Польшчы”. За ўвесь 2020 год такіх зваротаў зафіксавана ўсяго 407, то-бок утрая менш.

Тэлеграм-канал падае сёлетнюю статыстыку прынятых заяў асобна па месяцах: студзень – 78; люты – 57; сакавік – 130; красавік – 132; травень – 153; чэрвень – 123; ліпень – 235; жнівень – 150.

За апошнія чатыры гады Управа па справах іншаземцаў Польшчы вынесла 709 рашэнняў аб міжнароднай абароне грамадзянам Беларусі, у тым ліку 53 чалавекі атрымалі статус уцекача, 452 – дадатковай абароны і 2 – дазвол на талерантнае знаходжанне.

Бюджэтны план Управы па справах іншаземцаў на 2021 год перавысіў 64 млн злотых. Сродкі будуць выдаткаваныя на сацыяльную дапамогу іншаземцам, якія шукаюць міжнародную абарону.

novychas.by

**навіны**

# У БАТУМІ СТВОРАНЫ ГУРТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ПА ВЫВУЧЭННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Заняткі праходзяць двойчы на тыдзень, яны разлічаны на дзяцей 6-10 год. Памяшканне для заняткаў прапанавала сямейная прастора Spring School. Там створаны ўсе неабходныя ўмовы, каб дзецям было ўтульна і камфортна займацца.



Ужо прайшло два заняткі гуртка. За гэты час дзеці пазнаёміліся і паспелі навучыцца вітацца і развітвацца па-беларуску, даведаліся, як гучаць па-беларуску іх імёны і прозвішчы, вывучылі назвы колераў на роднай мове.

Арганізавалі і праводзяць заняткі Кася Панкевіч і Дана Кавалёва.

“Гэта такі эксперыментальны гурток. Мы больш энтузіясты. Не выкладчыкі, ні я, ні Дана, – кажа Кася. – У мяне ёсць мэта, моцнае жаданне, каб дзеці тут, у Грузіі, маглі хто вывучаць беларускую мову, хто падтрымліваць. Мяне радуе, калі дзеці ўключаюцца, калі ім цікава. Тады гэта натхняе нешта цікавае шукаць, прыдумляць для гуртка”.

Адносна далейшых планаў Кася гаворыць, што навучанне будзе весціся па тэмах: “Нашая задача – шукаць варыянты, каб вывучаць усё праз гульні, каб дзецям было цікава. Мне здаецца, што яно так запамінаецца лепей, больш натуральна. Спачатку будзем вывучаць нейкія базавыя тэмы, а потым, калі падцягнуцца тыя, хто зусім не ведае мовы, ісці глыбей, будзем чытаць на занятках, разыгрываць па ролях. Мы глядзім на дзяцей, на іх узровень, на іх цікавасці, на запыты бацькоў. Пакуль не было запытаў адносна акадэмічнай адукацыі, і нам бы і не хацелася гэтым займацца, бо мы не выкладчыкі. Нам важна, каб дзеці ў беларускамоўным асяродку былі, вывучалі нешта новае, камунікавалі паміж сабой, а не вучылі правілы, але, канечне, нейкія базавыя правілы беларускай мовы з часам будзем патрохху закранаць”.

Навучанне ў гуртку праходзіць у інтэрактыўнай форме. Падчас другога занятку дзеці паспелі пагуляць, паспяваць песенькі , pамаляваць, паглядзець кароценькі навучальны мульцік, паслухаць казку пра колеры на роднай мове, крыху пабегаць і пасмяяцца.

Частка дзяцей ужо добра ведаюць беларускую мову, таму, каб ім не давялося сумаваць, пакуль малодшыя вывучалі назвы колераў на беларускай мове, выкладчыкі падрыхтавалі спецыяльна для іх больш складаныя заданні.

Пакуль заняткі наведвае 6-9 дзяцей, але выкладчыкі спадзяюцца, што з часам вучняў стане болей. Тым больш, што настаўнікі гатовыя адаптаваць праграму навучання пад канкрэтныя запыты бацькоў і вучняў у залежнасці ад узроўню валодання мовай.

Заняткі праходзяць па серадах і пятніцах па адрасе: Батумі, вул. Пушкіна, 95.

Пачатак а 16:30.

За падрабязнай інфармацыяй можна звяртацца ў тэлеграм @kasia_kam.

**budzma.by**

# АРГАНІЗАТАРКА ЖАНОЧЫХ АКЦЫЙ, ЯКАЯ ЖЫЛА Ў МАСКВЕ, ТЭРМІНОВА З’ЕХАЛА АДТУЛЬ

Марына Ментусова была адной з арганізатарак жаночых акцый у белым. Месяц таму разам з маленькай дачкой яна тэрмінова пакінула Маскву. “Хацела б напісаць, што наша эміграцыя інтэлектуальная, але, на жаль, палітычная”. Дзяўчына распавяла “Нашай Ніве”, што адбылося.



Марына – выпускніца БДУКІ. Апошнія некалькі гадоў яна жыла ў Маскве (дзяўчына замужам за расійскім рэжысёрам і членам праўлення Фонду дапамогі хоспісам “Вера” Аляксандрам Сёміным). Але ў жніўні 2020-га не змагла заставацца проста назіральніцай. Пакінула шасцімесячную дачку дома і прыехала ў Мінск.

“Пасля таго як мы арганізавалі з дзяўчатамі першыя жаночыя акцыі ў белым, я стварыла тэлеграм-канал, у якім мы гэтыя акцыі асвятлялі. Кажуць, прэтэнзіі могуць быць праз яго”, – расказвае Марына.

Праз некалькі тыдняў пасля тых ланцугоў салідарнасці ёй паступілі першыя пагрозы з-за артыкула Мукавозчыка, і яна з’ехала да дачкі і мужа ў Маскву.

За год з Марынай двойчы праводзілі тлумачальныя гутаркі пасля акцый каля беларускай амбасады – адну ў мікрааўтобусе, другую проста ў горадзе. Папярэдзілі, што трэці раз цырымоніцца не будуць. Дзеля сям’і дзяўчына замоўкла.

Але на гэтым гісторыя не скончылася. Напачатку жніўня прыйшла павестка на яе імя – на адрас былога мужа ў Мінскай вобласці. З’явіцца на допыт Марына павінна была на наступны дзень. Па якой справе, ніхто так і не патлумачыў. Прыехаць на той допыт з Масквы дзяўчына не магла.

Яна хвалявалася, што за няяўку яе могуць адразу прыцягнуць да адказнасці, узяла кансультацыі ў некалькіх юрыстаў. Парада ад усіх была адна – тэрмінова з’язджаць з Расіі, бо апошнім часам колькасць дэпартацый з краіны вырасла. Марына з дачкой з’ехала.

Пасля ўжо стала вядома, што яе канал прызналі экстрэмісцкім.

“Блізкаму сябру ўдалося па сваіх сувязях удакладніць, ці ёсць я ў спісах. Я там была з пазнакай аб артыкуле аб злачынствах супраць асноў канстытуцыйнага строю і бяспекі дзяржавы, з пазнакай аб дэпартацыі. У Расіі напярэдадні выбараў зачышчаюць усё, што хоць крыху аддае апазіцыяй, затыкаюць раты і СМІ, і актывістам”, – дзеліцца Марына.

Прызнаецца, што да павесткі не думала, што ёй у Маскве можа штосьці пагражаць.

“Але мы і не думалі, што яны асмеляцца на план паглыбленай інтэграцыі, а цяпер гэта здаецца пытаннем часу”, – заўважае дзяўчына. Цяпер яна з дачкой у Вільні.

У Маскве Марына выкладала ў прыватным універсітэце і займалася праектам па сэксуальнай адукацыі падлеткаў. Для ўніверсітэта яна працягвае запісваць матэрыялы.

“А вось новы праект па гендарнай роўнасці, які я планавала пачаць у верасні, давядзецца прытармазіць. Пакуль трэба ўсё наладзіць тут, выдыхнуць і думаць, як не ўпасці ў вывучаную бездапаможнасць праз гэту сітуацыю. Канечне, хочацца працягнуць сваю жаночую павестку, але пакуль загадваць рана”.

**nashaniva.com**

гутарка

# Барыс Пятровіч: НІ СТАЛІН, НІ БРЭЖНЕЎ, НІ АНДРОПАЎ НЕ ЗАКРЫЛІ САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ, І ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКАЯ ЎЛАДА ЗРАБІЛА ГЭТА

Вярхоўны суд з падачы Міністэрства юстыцыі 1 кастрычніка скасаваў дзяржаўную рэгістрацыю найстарэйшай творчай арганізацыі ў краіне – Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ён праіснаваў 87 гадоў і ўвесь час быў апірышчам і абаронцам беларускай культуры і мовы. Чым ён стаў замінаць сённяшняй уладзе? Адразу пасля абвяшчэння судовага выраку я пагутарыў са старшынёй ліквідаванага саюза Барысам Пятровічам.

**– Барыс, што ўсё ж стала фармальнай прычынай ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў? Якія такія правіны СБП дапусціў, што Міністэрства юстыцыі не змагло з імі змірыцца?**

– Усё настолькі проста і прымітыўна было зроблена, што ажно вусцішна… Фармальнай падставай для ліквідацыі СБП сталі два папярэджанні, вынесеныя на працягу ўсяго аднаго тыдня – 9 і 14 ліпеня. Па кожным нам быў дадзены тыднёвы тэрмін, каб выправіць заўвагі, але мы не змаглі гэта зрабіць. Першае папярэджанне мы атрымалі 16 ліпеня, а 14-га ў нашым офісе адбыўсяператрус, праведзены супрацоўнікамі Следчага камітэта. У выніку офіс быў апячатаны, доступу да дакументаў, якія засталіся там, мы не мелі. Другое папярэджанне было вынесена за тое, што мы своечасова не прадставілі Мінюсту інфармацыю аб дзейнасці СБП за тры апошнія гады. Ліст аб гэтым мы атрымалі 13 ліпеня пасля абеду, а падаць інфармацыю неабходна было да канца гэтага ж дня. Падрыхтаваць за паўдня ўвесь аб'ём запрошаных дакументаў (а там было аж 27 пунктаў) і адвезці іх у Мінюст было проста фізічна немагчыма.

**– Вы неяк інфармавалі Мінюст пра гэта?**

– Так, мы адразу ж накіравалі ў міністэрства ліст з просьбай даць нам усяго адзін дзень адтэрміноўкі. Мы працавалі 13 ліпеня да позняга вечара, рыхтуючы неабходныя дакументы, а калі назаўтра прыйшлі ў офіс, каб скамплектаваць іх і адвезці ў Мінюст, з'явіліся прадстаўнікі Следчага камітэта і апячаталі памяшканне. Дакументы засталіся за зачыненымі дзвярыма. Але, калі б мы нават і змаглі адправіць 14 ліпеня запытаную інфармацыю, то ўсё роўна не паспелі б. Бо ўжо раніцай таго ж дня Мінюст вынес нам другое папярэджанне. Зразумела, што і яго выправіць мы не змаглі, пра што і паведамілі Мінюсту ў лісце. Але Мінюст 27 ліпеня накіраваў у Вярхоўны Суд пазоў аб ліквідацыі нашага саюза. Мы паспрабавалі аспрэчыць другое папярэджанне ў Вярхоўным судзе, але суддзя нашы доказы і абгрунтаванні не прыняў і не ўлічыў.




**– Атрымліваецца, што з боку ўлады было зроблена ўсё, каб СБП не змог выканаць яе патрабаванні?**

– Выходзіць, так. Хочаш не хочаш, а падумаеш, ці не стаіць за гэтым элементарны загад разабрацца з арганізацыяй, якая камусьці замінае. СБП за ўсю сваю гісторыю практычна не меў прэтэнзій з боку дзяржавы. Мы працавалі, выконваючы ўсе палажэнні Канстытуцыі і свайго статута. А тут адразу два папярэджанні запар іператрус з канфіскацыяй камп'ютараў і дакументаў…

**– Як рэагаваў суддзя Вярхоўнага суда Ігар Мільто (менавіта ён прымаў канчатковае рашэнне) на вашы аргументы – пра тое, што патрабаванні Мінюста вы выканаць проста не маглі?**

– Усе нашы доказы не былі прынятыя. Мы павінны былі памерці, але выканаць загады Мінюста! А нейкія перашкоды суддзя палічыў нязначнымі. Дадам яшчэ, што мы і ў Следчы камітэт звярталіся, каб нам далі магчымасць трапіць у офіс, каб перадаць дакументы ў Мінюст. З СК прыйшоў адказ: гэта немагчыма, бо працягваюцца следчыя дзеянні. Мы звярталіся таксама ў Мінскую пошту, і там пацвердзілі, што ліст з загадам прадставіць інфармацыю аб дзейнасці СБП мы атрымалі толькі ў другой палове 13 ліпеня. Дарэчы, прадстаўнік Мінюста гэта не адмаўляў, але не змог патлумачыць, чаму гэты ліст, падпісаны 6 ліпеня, толькі 8 ліпеня трапіў у паштовае аддзяленне самога Мінюста і толькі тады быў адпраўлены нам.

**– Міністэрства яго спецыяльна на два дні прытрымала?**

– Магчыма. І менавіта гэтых двух дзён нам і не хапіла. Але прадстаўнік Мінюста на першым судовым пасяджэнні сказаў, што гэта не іх, а нашы праблемы.

**– У пракурора цягам усяго трохгадзіннага разбору справы не ўзнікла ніводнага пытання ні да адказчыка, ні да адваката. Ён проста ў канцы пасяджэння зачытаў падрыхтаванае загадзя рашэнне аб ліквідацыі СБП. У прысутных склалася ўражанне, што прысуд быў вынесены раней і зусім не ў Вярхоўным судзе.**

– Не магу гэтага сцвярджаць, але менавіта так палічыла большасць прысутных у зале суда. Той факт, што за апошні час у Беларусі было ліквідавана больш за сто грамадскіх арганізацый, як кажуць, гаворыць сам за сябе. Відаць, недзе ёсць спіс арганізацый, з якімі варта "разабрацца", і лёс гэтых арганізацый прадвызначаны. Што праўды нам не дамагчыся, было зразумела з першых крокаў. Але мы вырашылі прайсці гэты шлях да канца, каб потым не шкадаваць, што мы маглі адстаяць сваё права на існаванне і далейшую працу, але не зрабілі гэтага.

**– Аднойчы Саюз беларускіх пісьменнікаў улада ўжо спрабавала ліквідаваць – у 2006 годзе. Тады арганізацыю ўдалося адстаяць. І больш як 14 гадоў СБП дзейнічаў. Як ты лічыш, чым у 2021 годзе ён стаў замінаць уладзе? Ды так замінаць, што давялося яго ліквідаваць?**

– Так, у 2006 годзе, расчышчаючы глебу пад новаствораны праўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства юстыцыі спрабавала ліквідаваць наш саюз. І тады прычыны былі надуманыя – настолькі, што суд не прыслухаўся да Мінюста і нас апраўдаў. Тады яшчэ ў краіне захоўваліся рэшткі хоць нейкай законнасці і была хоць нейкая незалежнасць судовых органаў. На той суд, памятаю, прыйшлі ўсе тагачасныя народныя пісьменнікі (сёння, на жаль, іх ужо няма побач з намі), прыйшлі амбасадары еўрапейскіх краін (цяпер ім забаронена ўдзельнічаць у су-

дах). І разам мы адстаялі наша права на існаванне.

**– Гэта ж тады спынілася сэрца ў Генадзя Бураўкіна?**

– Не ў судзе, а падчас папярэдняга разбіральніцтва ў Мінюсце ў Генадзя Мікалаевіча здарыўся сардэчны прыступ. І толькі своечасовая дапамога сябра-пісьменніка Алеся Масарэнкі ўратавала яго, бо ў міністэрстве не аказалася нават элементарнай аптэчкі… Генадзь Мікалаевіч пасля таго пражыў яшчэ восем гадоў, напісаў шмат новых твораў. Ён быў для нас чалавекам і сябрам, да якога можна было звярнуцца ў любы момант, атрымаць падтрымку і параду. Гэтым разам сітуацыя амаль паўтарылася: падчас судовага пасяджэння стала кепска Уладзіміру Някляеву, Язэпу Янушкевічу і Уладзіміру Марозу, і яны вымушаны былі пакінуць залу.

**– Але ўсё ж чым перашкаджала ўладзе найстарэйшая творчая арганізацыя, заснаваная яшчэ ў 1934 годзе пры ўдзеле Янкі Купалы і Якуба Коласа?**

– Відаць, ужо адным сваім існаваннем… Заўважу, што пісьменнікам ва ўсе часы і ва ўсіх дзяржавах дазвалялася крыху больш, чым іншым. Яны маглі крытыкаваць тое, што ім не падабалася, мець сваю думку, адрозную ад праўладнай. Ва ўсе гады, нават у самыя змрочныя, былі ў былым СССР іншадумцы. Дзяржава змагалася з імі, але не з саюзамі – пісьменнікаў, мастакоў, творцаў увогуле. Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта.

**– СБП праводзіў вялікую асветніцкую і культурніцкую працу (у тым ліку ў рэгіёнах), уручаў літаратурныя прэміі, ладзіў фестывалі. З ліквідацыяй саюза чаго ў нашай краіне не стане?**

– Нічога асабліва не зменіцца. Бо пісьменнікі засталіся. Яны і надалей будуць пісаць і друкаваць свае творы. Сёння кожны можа змясціць напісанае ў інтэрнэце, і чытачоў у яго будзе больш, чым наклад кнігі. Нас не трэба вучыць, за апошнія дваццаць гадоў мы шмат чаму навучыліся з "дапамогай" дзяржавы. Па-ранейшаму будуць арганізоўвацца літаратурныя вечарыны, праводзіцца фестывалі, уручацца прэміі… Мы раней рабілі гэта на грамадскіх пачатках і будзем працягваць. Толькі ўжо не ад імя СБП, а прыватна. Як у свой час рабілі Купала і Колас, Ластоўскі і браты Луцкевічы. Вядома, не хацелася б у суверэннай дзяржаве ў XXI стагоддзі вяртацца ў дарэвалюцыйныя часы. Але што зробіш, калі такі наш лёс, калі такі лёс беларускага народа: ісці да сябе, да свайго – да Беларусі (як сказаў незабыўны Ніл Гілевіч) – праз штучныя перашкоды, якіх не павінна было б быць.

**– Відаць, прыватна арганізоўваць нейкія мерапрыемствы будзе ўсё ж значна цяжэй.**

– А нам і раней не было лёгка. Ёсць жа прыклады працы арганізацый, ліквідаваных раней. Скажам, беларускі ПЭН-цэнтр на чале са Святланай Алексіевіч і Таццянай Нядбай працягвае свае праекты, часам яшчэ ў большым аб'ёме, чым раней. Практычна ад усіх арганізацый, якія дзяржава знішчае, мы чуем, што яны будуць працягваць працаваць, толькі ў іншым фармаце. Чыноўнікі ніяк не хочуць зразумець, што па вялікім рахунку для нас нічога не змяняецца, яны не вераць, што людзі могуць працаваць не за грошы, а за ідэю. Яны дарэмна лічаць, што, пазбавіўшы нас афіцыйных месцаў працы, прымусяць нас замоўкнуць, зашыцца па кутах. Нам няма чаго губляць. Мы не мелі ніякіх выгод. З усіх саступак дзяржавы мы мелі толькі адну: сябры нашага саюза не лічыліся так званымі дармаедамі. Што ж, цяпер некалькі дзясяткаў пісьменнікаў, у тым ліку і я, займеюць гэтае "гордае" званне.

**– Адвакат СБП у сваім выступленні ў судзе параўнала ліквідацыю арганізацыі з вышэйшай мерай – расстрэлам. На што прадстаўнік Мінюста запярэчыў: расстраляны ўваскрэснуць не можа, а пісьменнікі могуць сабрацца і заснаваць новую арганізацыю. Ці збіраецца кіраўніцтва СБП штосьці рабіць у гэтым кірунку?**

– Думаю, не адразу, але з цягам часу такое пытанне ўзнікне. І няхай не ўсе цяперашнія нашы 470 сябраў, а 150 ці 200 з іх аб'яднаюцца і адновяць саюз. Але не пры цяперашняй уладзе. Не для таго яна ліквідавала саюз, каб дазволіць аднавіць яго. Але, калі зменіцца сітуацыя, Саюз пісьменнікаў, у які ўваходзілі Быкаў і Адамовіч, Гілевіч і Мележ, Караткевіч і Брыль, Шамякін і Чыгрынаў, Барадулін і Бураўкін і яшчэ дзясяткі класікаў нашай літаратуры, чые творы складаюць залаты фонд нашай культуры, абавязкова будзе адноўлены.

**– На пасяджэнні ў Вярхоўным судзе прысутнічалі каля двух дзясяткаў пісьменнікаў. Шмат хто з сяброў саюза знаходзіцца ўжо ў вельмі паважным веку і чакаў судовага рашэння дома. Скажам, Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, Васіль Зуёнак… Калі б так сталася, што ўсе 470 сябраў СБП пасля вынясення прысуду сабраліся ў адным месцы, што б ты ім сказаў?**

– Сказаў бы, каб бераглі сваё здароўе і не дужа шкадавалі і перажывалі з-за таго, што дзяржава ліквідавала наш СБП. Бо не саюз нас аб'ядноўваў, а любімая справа – літаратура. І права пісаць у нас ніхто ніколі не адыме. Як і права жыць і працаваць дзеля роднай Беларусі і набліжаць той дзень, калі наша краіна стане сапраўды дэмакратычнай і вольнай.

**Міхась Скобла, "Народная Воля"**




# РАМАН МАРЦІНОВІЧА, ЗАБАРОНЕНЫ Ў БЕЛАРУСІ, ПАСТАВЯЦЬ У ТЭАТРЫ Ў ГАМБУРГУ

Раней беларускія мытнікі перасталі прапускаць раман у пасылках за мяжу, а міліцыя канфіскавала ўвесь наклад кнігі.

"Рэвалюцыю" беларускага пісьменніка Віктара Марціновіча паставяць у нямецкім тэатры. Пра гэта сам ён паведаміў у сацсетках.

Паводле яго слоў, прэм'ера спектакля паводле рамана "Рэвалюцыя" адбудзецца ў красавіку 2022 года ў тэатры Deutsches Schauspielhaus ў Гамбургу. Ён лічыцца адным з найбуйнейшых тэатраў у Нямеччыне.

Раман "Рэвалюцыя" Марціновіч напісаў у 2013 годзе. Дзеянне адбываецца ў Маскве 2000-х: эмігрант з Беларусі атрымлівае ўладу – і тая на яго ўздзейнічае адмоўна.

Раман выдадзены на беларускай мове ў 2020 годзе ў беларускім выдавецтве "Кнігазбор", а ў 2021 годзе – на рускай мове ў маскоўскім "Времени".

З пачатку 2021 беларуская мытня перастала выпускаць за мяжу пасылкі з гэтым раманам. Прыператрусе ў выдавецтве "Кнігазбор" канфіскавалі ўвесь наклад "Рэвалюцыі".

**svaboda.org**

# У НІДЭРЛАНДАХ ВЫДАДЗЕНА КНІГА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, ПРЫСВЕЧАНАЯ БЕЛАРУСКАЙ МІФАЛОГІІ

"Духі заўсёды побач" – такое дзіцячае выданне з'явілася ў Нідэрландах.

Аўтарка – беларуска Таццяна ван дэн Брынк. Расповед прысвечаны 13 духам-нячысцікам з беларускай міфалогіі і з'яўляецца першай з серыі 13, – адзначыла сама творца:




"У Беларусі не хапае кніг, якія не толькі распавядаюць пра міфалогію, але яшчэ і гавораць пра яе на іншых мовах. Чаму гэта важна? Я лічу, што не толькі беларускія дзеткі павінны ведаць міфалогію, але і ў Еўропе, і ў іншых краінах вельмі цікавяцца і беларускай, і славянскай міфалогіяй".

Як адзначыла Таццяна ван дэн Брынк, замовіць кнігу можна фактычна з усіх краін свету. Дастаткова зайсці на старонку выдавецтва.

**"Беларускае Радыё Рацыя"**

рэпартаж

# ЯК БЕЛАРУСКІЯ АРТЫСТЫ І МАСТАКІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СВАЮ СПРАВУ Ў ПОЛЬШЧЫ

Беларускія творцы, якія трапілі пад рэпрэсіі і вымушаныя былі з'ехаць за мяжу, аб'ядналіся на рэзідэнцыі арт-тэрапіі. Свабода паразмаўляла з арганізатарамі і ўдзельнікамі праекту аб тэрапіі, творчым працэсе, уражаннях і планах на будучыню.

Творцы, якія апынуліся ў цяжкіх абставінах праз падзеі ў Беларусі, сабраліся на рэзідэнцыі ў Бялцы-Татшаньскай у паўднёвай Польшчы. Удзельнікі прайшлі рэабілітацыю праз адмысловыя трэнінгі, музыку, тэатр і мастацтва. Прафесійныя музыкі і акторы, а таксама пачаткоўцы, стварылі "Эмацыйную оперу па-за гульнёй".

Арганізаваў рэзідэнцыю музыка і спявак Сяржук Доўгушаў, які некалькі месяцаў таму вымушана пакінуў Беларусь. Музыка кажа, што на ўласным досведзе зразумеў, у якім стане цяпер беларусы-рэлаканты і як ён можа ім дапамагчы.

"Рэзідэнцыя для беларускіх творцаў створаная, каб адаптавацца, гэта магчымасць рэалізаваць творчыя праекты і задумы. Пасля пераезду ў іншую краіну, патрэбны месяц, каб хоць мінімальна супакоіцца, а часам і паўгода. І, вядома, тым, хто быў у нечалавечых умовах у турмах, патрэбная групавая, індывідуальная тэрапія, трэба выгаварыцца, пражыць гэтыя стрэсы. У нас была арт-тэрапія, калі людзі малявалі свае страхі, унутраныя перажыванні, палілі, рвалі, а потым гэта ўсё ператварылася ў оперу", – тлумачыць Сяржук Доўгушаў.




Анастасія Мацкевіч і Сяржук Доўгушаў

## Рэзідэнцыя праходзіла ў маляўнічых польскіх Татрах

"Рашэнне было за рэжысёрам Юрам Дзіваковым. Для яго была важная пляцоўка на вуліцы, каб нам не перашкаджалі людзі, каб машыны не ездзілі. Таму была мэта з'ехаць далей ад горада, і я вельмі задаволены, што выбралі гэтае месца – горы, горныя рэчкі, возера, прырода. У нас была свая прастора для заняткаў".

На працягу дзесяці дзён удзельнікі рэзідэнцыі праходзілі розныя трэнінгі: тэатральныя, мастацкія і дыхальна-гукавыя. Апошнія праводзіў Сяржук Доўгушаў.

"Я даўно імі займаюся, у мяне ёсць свой курс „Прыродны голас". Я проста бачу на практыцы, як гэта працуе: пасля сьпеваў у людзей усмешка з'яўляецца, тонус, твар робіцца святлейшым. Калі правёў адзін курс, два, тры, было шмат удзячных людзей, якія казалі, што ў іх нават асабістае жыццё наладзілася, што яны нейкія рашэнні знаходзілі. Таму гэта вельмі блізка мяжуе з ёга-голасам, вакала-тэрапіяй, нейкімі духоўнымі практыкамі, бо голас – гэта такая вельмі тонкая рэч. Людзі, якія спяваюць, – шчаслівыя людзі. Спевы – гэта і вібрацыі, і лячэнне свайго цела і духу, гэта паляпшае чалавека фізічна".



Акторы Аляксей Сапрыкін і Дзяніс Мароз

## "Словамі і творчасцю можна напужаць таго, у каго пісталеты"

Арт-трэнінгі на рэзідэнцыі праводзіла сцэнограф, дызайнер, ілюстратар, гід па метадыцы Марыі Мантэсоры для дзяцей ад 8 месяцаў да 6 год Таццяна Дзівакова. Творца кажа, што ўжо больш за 10 гадоў цікавіцца мастацтвам з боку тэрапіі.

"Асноўных эмоцый пяць, а ўсё астатняе – гэта іх варыяцыі. Я спрабавала разам са сваім дзіцем іх вывучаць, кантраляваць, развіваць, разумець, кіраваць імі, з вялікага досведу і нарадзілася жаданне ўсё гэта зрабіць. Гэта ня толькі пра арт-тэрапію, тут яшчэ пра разуменне, як сябе паводзіць, каб чалавек расслабіўся, мог сябе адпусціць, намаляваць штосьці і не баяцца ўсяго працэсу", – тлумачыць Таццяна Дзівакова.

Ідэя трэнінгаў у Таццяны з'явілася праз цікавасць да даследавання эмоцый.

"Нарадзілася ўсё са свайго досведу. Калі ты з'ехаў у іншую краіну, ты разабраны па частках, рукі, ногі, галава – усё асобна, а трэба неяк сабрацца. Мне вельмі спадабалася ва ўсім гэтым працэсе, што я дапамагала людзям, але насамрэч і яны мне вельмі шмат дапамаглі. Я ўбачыла, як людзі нарэшце сябе адпускаюць, згадваюць, хто яны такія, не жывуць толькі праблемай, якая склалася".

На занятках з Таццянай удзельнікі апісвалі, прагаворвалі свае эмоцыі, а потым "вылівалі" іх на паперы, у пластыліне і іншых матэрыялах. Абмежаванняў не было ніякіх. Далей з пераўвасобленымі эмоцыямі можна было рабіць усё што заўгодна: сячы сякерай, паліць у вогнішчы, рваць ці закапаць.

"На працягу ўсяго летніка я спрабавала нагадваць, што ваша моц з'явіцца тады, калі вы станеце здаровымі, тады зможаце дапамагчы іншым. Моц у тым, што ў цябе няма зброі, што ты, вось такі голы, натуральны, жывы чалавек, можаш сваімі словамі і творчасцю напужаць таго, у каго пісталеты. Мне здаецца, вось гэта неверагодная экалагічная зброя, і трэба пра гэта памятаць".

Таксама Таццяна настойвае, што ўсе людзі малююць.

"Калі ўзяць традыцыйнае народнае мастацтва, там усе людзі спявалі, гралі, танцавалі, бо гэта сродак, каб сябе расслабіць, каб перапрацаваць назапашаны досвед у творчасць. І праз тое, што з'явіліся такія прафесіі [творчыя. – РС], быццам ты не маеш права гэта рабіць. Няпраўда, абсалютна. Вельмі было шмат прац, калі людзі першы раз бралі ў рукі фарбу і выдатна малявалі, выказвалі свае думкі з дапамогай гэтых мастацкіх сродкаў. Гэта было вельмі прыгожа, і я вельмі шчаслівая, што гэта ўсё здарылася".

## "Аддзяліцца ад эмацыйнага і паспрабаваць прааналізаваць"

Акторскай працай з удзельнікамі, пастаноўкай і напісаннем оперы займаўся рэжысёр Юра Дзівакоў. Творца кажа, што з радасцю ўзяўся за працу над гэтым праектам, бо гэта было нешта новае і адрознае ад таго, чым ён займаўся да гэтага.

"Кожны вечар мы з Таняй абмяркоўвалі, што адбывалася з удзельнікамі ў яе на занятках, разважалі наконт усіх гэтых эмацыйных станаў. Я назіраў за малюнкамі ўдзельнікаў, пластычнымі творамі, якія яны рабілі. І потым ужо з'явілася нейкая хуткая канцэнтрацыя, і за вечар ці ранак я пісаў тэксты на кожную эмоцыю", – кажа Юра Дзівакоў.

"Эмацыйная опера па-за гульнёй" складаецца з пяці частак: "Гнеў", "Радасць", "Жах", "Сум" і "Сорам". У оперы выкарыстоўваюцца лацінская, ангельская, беларуская і руская мовы, тлумачыць рэжысёр.

"Я спачатку ўсё перакладаў на лаціну, разбіраў і выпрацоўваў з ёй лібрэта. А другая частка, напрыклад, той жа самай „Радасці", напісаная па-беларуску. Была канцэнтрацыя той эмоцыі, якая ўзбуджаецца і людзьмі, якія працавалі над гэтым на працягу пяці дзён, і тым, што адбывалася ўва мне за гэты час".

Здаралася, тэксты рэжысёр пісаў за пару гадзін.

"І, канечне, я там прыдумляў нейкае фізічнае дзеянне з тых рэчаў і абставін, што ў нас былі, з асяроддзя: камяні, дрэвы, галінкі, фарбы і тыя знакі, што мы зрабілі з пенаплексу. Апошняе мы прыдумалі раней і стваралі іх потым як сімвалы".

Над дэкарацыямі працавалі таксама музыкі і акторы праекта.

"Калі чалавек сам стварае, ён гэта цэніць, для яго гэта важна, – дадае Таццяна. – Ну, і гэта новы досвед, падзяліцца тым, як робіцца спектакль ад самага пачатку. Яшчэ ёсць момант, што ты папрацаваў з эмоцыямі і выводзіш гэта на прафесійны ўзровень. Ты як бы робіш прадукт са сваіх перажыванняў, са свайго досведу. Гэта як аддзяліцца ад эмацыйнага і паспрабаваць прааналізаваць, паглядзець збоку, нарадзіцца нанава".

## "Калі мы ў стане эміграцыі, нават 10 дзён дакладнасці для нас вельмі важныя"

У хуткім тэмпе давялося працаваць усім. Оперу паставілі за некалькі дзён. Кампазітар Вольга Падгайская пісала музыку літаральна за пару гадзін, але кажа, што гэта было нескладана.

"Па-першае, былі людзі, якія натхняюць, глядзяць табе ў вочы і кажуць: „Вось давай гэта зробім!". І гэта ўсё так інтрыгуе! Ты бачыш, якая ідэя цікавая, сцэнар, само месца. Складана было толькі, што ноты давялося пісаць ад рукі. Мне больш за ўсё спадабалася, як я сябе стала паводзіць. Я цэлы год не сьмялася ад чыстага сэрца, а за гэтыя дні было столькі абсурдных сітуацый падчас працы, я сустрэла свайго чалавека – рэжысёра, і ў нас проста нейкія радыёхвалі супалі. Я смяялася да слёз. Шмат людзей супала ў адным пункце і ў адзін час", – кажа Вольга Падгайская.



Віталь Эппаў

Таксама Вольга праводзіла з удзельнікамі ўрокі па сальфеджыа і рыхтавала іх да спеваў на спектаклі.

"Такія праекты вельмі важныя, асабліва для людзей, якія пацярпелі. Рэзідэнцыя аб'ядноўвае, і з'яўляецца пачуццё, што ты не адзін у любой сітуацыі, дрэннай ці добрай, што б ні адбылося. Атрымліваеш такое станоўчае эмацыйнае насычэнне, усё прапрацоўваеш, і ад гэтага становіцца лягчэй жыць".

"Гэта сумесная творчасць і разрадка, – дадае музыка, фагатыст Віталь Эпаў. – Цяпер, калі мы ў стане эміграцыі, нявызначанасці, хоць бы гэтых 10 дзён нейкай дакладнасці для нас вельмі важныя. Гэта было ў свабодным фармаце, такая атмасфера дае магчымасць тварыць. Мне вельмі спадабаліся практыкаванні з малюнкам. Я апошні раз маляваў у школе, а тут я знайшоў новыя рэчы з колерамі і нават падумаў: можа, мне гэтым заняцца, паэксперыментаваць? Гэта вельмі змяніла нейкае каляровае ўспрыманне жывапісу".

## "Калі людзі выходзяць на пляцоўку, то яны ўжо становяцца прафесіяналамі"

У оперы ўдзельнічалі як прафесійныя акторы і акторкі, так і пачаткоўцы. Юра прызнаецца, што спачатку турбаваўся праз гэта, бо "прафесіянал", які жыве ўнутры, патрабуе хуткасці дзеянняў. Але кажа, што потым падпарадкаваўся фізічнаму і эмацыйнаму стану ўдзельнікаў, і ўсё атрымалася.

"Нас вельмі шмат, мы ўсе розныя настолькі, што трэба быць уважлівымі адзін да аднаго. Калі людзі выходзяць на пляцоўку, то яны ўжо становяцца прафесіяналамі. Вось гэты момант і ёсць прафесія, калі ты проста выходзіш на сцэну і робіш, незалежна ад таго, прафесійныя з табою побач акторы ці не, ты спяваеш ці не, ты ўсё роўна выходзіш і робіш. Усе робяць па-рознаму, але ў гэты кароткі час мы змаглі сканцэнтравацца і зрабіць адзінае. Вельмі за кароткі час можна стаць прафесіяналам не меншым, чым той, хто займаецца шмат гадоў", – кажа Юра Дзівакоў.

Вось як апісвае свой досвед на рэзідэнцыі прафесійная акторка, оперная спявачка Дар'я Новік, якая грала ў вобразе вар'яткі:

"Я не ведаю, як апісаць сваю ролю. Гэта ўсё на эмоцыях! І, канечне, яна мне падабаецца, таму што гэта я, толькі праз трошкі іншую прызму, – смяецца Дар'я Новік. – На летніку я ўпершыню за гэты год адчула, што магу ўсміхацца, адчувала неверагодную любоў да ўсіх удзельнікаў. Ох, колькі было эмоцый! Усе тыя, пра якія мы кажам у оперы. І слёзы былі, і дзікі рогат! Мне падабаецца праца ў такім хуткім тэмпе, яна заўжды вельмі эмацыйная, лёгкая і свежая. Такія праекты важныя тым, што ў іх нараджаецца штосьці сапраўднае".

Рэжысёр Юра кажа, што вельмі задаволены тым, што атрымалася, але гатовы дапрацоўваць і ўдасканальваць спектакль.

"Я вельмі задаволены і ўражаны, што была такая канцэнтрацыя. І музыкі, і акторы ўсе разам працуюць, ніхто не зрушыўся ўлева ці ўправа і не сказаў: „Мне зараз кепска, я вас ненавіджу". Было супер. Я вельмі задаволены тым, што за такі кароткі тэрмін зроблена велізарная праца. Тэхнічна, канечне, я б яшчэ працаваў, зрабіў бы касцюмы, святло і інш. Але гэта замарочкі, бо заўжды думаеш, як зрабіць яшчэ лепш".

## "Гэтая опера павінна жыць"

Цяпер ідзе распрацоўка праграмы на падаўжэнне рэзідэнцыі, кажа Сяржук Доўгушаў.

"Хочацца зрабіць праграмы яшчэ і для мастакоў, літаратараў і перакладчыкаў, паэтаў, каб гэта было з рознымі творцамі ў некалькі этапаў. Бо вялікай колькасці беларускіх творцаў проста неабходна адпачыць, штосьці стварыць новае. Гэта важны этап, каб у нас нараджаліся нейкія творчыя прадукты, бо ў канцэнтрацыі негатыву вельмі складана штосьці зрабіць. Калі мы ў спакайнейшым месцы, то хочацца, каб з'явілася болей новай літаратуры, музычных твораў".

У бліжэйшым часе адбудзецца онлайн-прэзентацыя оперы і жывы выступ. Ёсць ідэя паказаць яе ў Варшаве, а потым у іншых гарадах і краінах, кажа Сяржук.

"Я лічу, што гэта ўнікальная з'ява, што за адзін тыдзень з'явілася опера. У Беларусі такога б не адбылося, асабліва цяпер. Спектакль – гэта вынік нашай рэзідэнцыі, нашых перажыванняў, нашай працы. Бо мы пражывалі, прапрацоўвалі гэтыя эмоцыі, з чаго і нарадзілася „Эмацыйная опера па-за гульнёй". Гэтая опера павінна жыць, гэта сапраўды нешта новае, сучаснае, і яно якраз расказвае пра наш эмацыйны стан – беларусаў і ўвогуле творцаў".

svaboda.org

навіны

# ЧЫМ БУДЗЕ ЗАЙМАЦЦА АКАДЭМІЯ СПАРТЫЎНЫХ МЕНЕДЖАРАЎ?

Як вядома, пасля выбараў мінулага года многія вядомыя беларускія спартсмены, якія выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю, былі вымушаны з'ехаць за мяжу, каб не трапіць пад рэпрэсіі. Сярод іх і прызёрка Алімпійскіх гульняў плыўчыха Аляксандра Герасіменя.



Зараз стала вядома, што гэтыя спартсмены плануюць адкрыць у найбліжэйшы час акадэмію, якая будзе рыхтаваць спартыўных менеджараў.

“Гэтая ідэя лунала ў паветры даўно, – распавяла Аляксандра Герасіменя аднаму з тэлеграм-каналаў. – Мы ўсе разумелі, што ў Беларусі вялікая праблема з кіраўнікамі. Відавочна, што спорт у краіне павольна згасае, усе спрабуюць знайсці гэтаму прычыну. Кажуць пра тое, што дрэнная падрыхтоўка, няякасныя трэнеры, спартсмены. Але шукаць трэба глыбей.

Праблема не ў трэнерах і гульцах, а ў кіраўніках, якія не разумеюць, што такое спорт, не ведаюць гэтую сферу знутры, не ўяўляюць, як кіраваць спортам, як знаходзіць спонсараў, як зрабіць так, каб людзі цікавіліся спортам, і, галоўнае, як прыцягнуць дзяцей да заняткаў спортам. Усё гэта вядзе да таго, што спорту як такога ў Беларусі проста не будзе.

Гледзячы на ўсё гэта, захацелася зрабіць так, каб па вяртанні ў свабодную Беларусь ужо былі людзі, якія гатовы ўсё мяняць. У выніку мы вырашылі стварыць акадэмію, дзе падрыхтоўку будуць праходзіць спецыялісты, якія ў будучыні змогуць прасоўваць беларускі спорт, менеджараў, якія будуць займаць кіруючыя пасады дзякуючы свайму прафесіяналізму, а не лаяльнасці да ўлады. Таму што мы выдатна бачым, да чаго прыводзіць сітуацыя, калі на пасадах сядзяць выключна тыя, хто выказвае такую лаяльнасць, а не свае прафесійныя якасці”.

Паводле слоў Герасімені, на навучанне ў акадэмію пакуль што можа патрапіць любы жадаючы, які хоча развівацца ў спартыўнай сферы.

“Мы вітаем спартсменаў, якія хочуць развівацца ў новым для сябе кірунку, ужываючы на практыцы атрыманыя за гады кар'еры веды, – дадае Аляксандра. – Таксама курс будзе цікавы тым, хто не быў раней звязаны са спортам, але ім цікавая гэтая сфера, яны хочуць паглыбіцца ў праблематыку, хочуць у далейшым кіраваць спартыўнымі арганізацыямі, клубамі”.

Афіцыйна акадэмія з'явілася 1 верасня, але курс стартуе з 1 кастрычніка. Навучанне ў рэжыме анлайн будзе доўжыцца 12 тыдняў, за курс навучання трэба заплаціць 250 еўра.

**Алесь Святланіч, nv-online.info**

# ПАКУПНІК МЕДАЛЯ КРЫСЦІНЫ ЦІМАНОЎСКАЙ ПЕРАДАСЦЬ ЯГО Ў МУЗЕЙ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ

Медаль Крысціны Ціманоўскай, які яна прадала на аўкцыёне за 21 тысячу долараў, увойдзе ў экспазіцыю Музея Вольнай Беларусі, паведаміў Фонд спартовай салідарнасці.



Срэбны медаль Другіх Еўрапейскіх гульняў набыў жыхар ЗША Яўген. Ён родам з Кіева, пераехаў у Амерыку 30 гадоў таму. Тады яму дапамагалі дзяржава, мясцовыя ўлады, суседзі і выпадковыя амерыканцы. І калі яго сям'я перайшла з зоны выжывання ў зону дабрабыту, ён вырашыў, што будзе дапамагаць іншым.

Яўген купіў медаль Ціманоўскай на знак салідарнасці з беларусамі, якія трапілі пад рэпрэсіі пасля леташніх выбараў. Ён лічыць, што сваім учынкам зможа натхніць людзей ахвяраваць арганізацыям, якія займаюцца дапамогай пацярпелым беларусам.

Яўген вырашыў перадаць куплены медаль у Музей Вольнай Беларусі. Пра гэта ён дамовіўся ў размове з Крысцінай Ціманоўскай. Яна вельмі ўзрадавалася такой ініцыятыве. Музей стварае ў Польшчы Народнае антыкрызіснае кіраўніцтва.

“Медаль, які я выставіла на аўкцыён, для мяне вельмі дарагі. Я выдатна памятаю той дзень і эмоцыі, якія яго суправаджалі. Таму, вядома, мне хацелася асабіста пазнаёміцца ці пагутарыць з чалавекам, які, купіўшы яго, вырашыў падтрымаць мяне і ўсіх рэпрэсаваных спартоўцаў. Шчыра скажу, я пад вялікім уражаннем. І дадам, што людзі, іх адкрытасць, гатоўнасць дапамагаць, ісці насустрач – гэта самае дзівоснае, што я бачу апошнім часам. Я радая, што медаль стане часткай экспазіцыі Музея Вольнай Беларусі і будзе непадалёк ад мяне. А аднойчы мы разам вернемся дадому”, – сказала Крысціна Ціманоўская.

Крысціна Ціманоўская публічна раскрытыкавала трэнерскі штаб нацыянальнай зборнай на сёлетняй Алімпіядзе за некампетэнтнасць, праз якую некаторыя спартоўцы не змаглі трапіць на Гульні-2020 ў Токіа.

За гэта прадстаўнікі беларускай місіі паспрабавалі дачасна вывезці яе дадому, аднак лёгкаатлетка папрасіла заступніцтва Міжнароднага алімпійскага камітэту і ў выніку адмовілася вяртацца ў Беларусь, накіраваўшыся ў Польшчу. Там яна заявіла, што мае намер атрымаць спартовае грамадзянства гэтай краіны, каб выступаць далей.

Чальцоў афіцыйнай дэлегацыі Юрыя Маісевіча і Артура Шумака, якія ціснулі на Крысціну Ціманоўскую, дачасна пазбавілі алімпійскай акрэдытацыі.

**svaboda.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2021 года

**2 кастрычніка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Мікола Дучыц, мастак. Памёр у 1980-м.

**4 кастрычніка**
- 280 гадоў таму, у 1741-м, нарадзіўся Францішак Карпінскі, паэт. Памёр у 1825-м.
- 225 гадоў таму, у 1976-м, памёр Юльян Сергіевіч, паэт, мастак.
- 40 гадоў таму, у 1981-м, памёр Чэслаў Сіповіч, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

**6 кастрычніка**
- 145 гадоў таму, у 1876-м, нарадзіўся Ян Булгак, фотамастак, этнограф. Памёр у 1950-м.

**7 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, памерла Соф'я Трашчкоўская, паэтэса.

**8 кастрычніка**
- 120 гадоў таму, у 1901-м, нарадзілася Апалонія Савёнак (дзяв. Раткевіч), пісьменніца, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 1982-м.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памерла Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), пісьменніца.

**9 кастрычніка**
- 105 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Віталь Кажан, вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 2004-м.

**10 кастрычніка**
- 225 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Міхаіл Без-Карніловіч, гісторык. Памёр у 1862-м.
- 85 гадоў таму, у 1936-м, памёр Часлаў Пяткевіч, этнограф.

**13 кастрычніка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Мікалай Шчакаціхін, мастацтвазнавец. Памёр у 1940-м.

**17 кастрычніка**
- 45 гадоў таму, у 1976-м, памёр Радаслаў Астроўскі, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

**18 кастрычніка**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Алесь Салагуб, паэт. Расстраляны ў 1934-м.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памёр Пятро Бітэль, пісьменнік, праваслаўны святар.

**20 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Валянцін Рамановіч, мастак. Забіты ў 1945-м.

**23 кастрычніка**
- 80 гадоў таму, у 1941-м, забіты Васіль Шашалевіч, драматург.
- 40 гадоў таму, у 1981-м, памёр Якуб Міско, пісьменнік.

**25 кастрычніка**
- 75 гадоў таму, у 1946-м, у Парыжы заснавана Беларуская Грэка-Каталіцкая Місія.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памёр Антось Галіна (сапр. Міхась Міцкевіч), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**30 кастрычніка**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, у Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны універсітэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (232), верасень 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27